# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 24 (2478) 13 чэрвеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.


ІНТЭГРАЦЫЯ: "ЗА" ЦІ "СУПРАЦЬ"

## БЕЗ ДУХОЎНАЙ АСНОВЫ НЯМА ЭКАНОМІКІ

**Сярод асабліва вострых і дыскусійных тэм у сённяшняй Беларусі інтэграцыя з Расіяй, бадай, найпершая. У спрэчках палітыкаў ламаюцца коп'і, кожны бок імкнецца даказаць правільнасць сваіх довадаў і памылковасць довадаў апанентаў. Ісціна ж, як гэта звычайна і бывае ў жыцці, хутчэй за ўсё недзе пасярэдзіне. Таму робіцца асабліва каштоўнымі ўзважаныя, кваліфікаваныя меркаванні спецыялістаў, якія ведаюць сутнасць справы "знутры". Да такіх людзей з поўным правам адносіцца дырэктар Інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларусі, акадэмік Генадзь ЛЫЧ.**

***-- Генадзь Міхайлавіч, якое ваша стаўленне да вышэй згаданай праблемы?***

-- Адразу ж павінен сказаць: інтэграцыя, у тым ліку ў галіне эканомікі, -- у цэлым станоўчы працэс, які мае месца ў глабальным маштабе і на рэгіянальных узроўнях (сусветная гаспадарка, стварэнне рэгіянальных эканамічных саюзаў, як, напрыклад, еўрапейская эканамічная супольнасць, паўночнаамерыканскі саюз і г. д.). Акрамя таго, сёння ўсе дзяржавы аб'ядноўваюцца ў імя больш паспяховай канкурэнцыі, з так званымі, трэцімі краінамі, якія, у сваю чаргу, бачачы гэта, каб лепш змагацца за сваё месца пад сонцам, таксама ствараюць уласныя супольнасці.

Але карысць інтэграцыі значна шырэйшая. Падобныя саюзы спрыяюць пашырэнню эканамічнай прасторы, у якой дзейнічаюць суб'екты гаспадарання, што дае магчымасць больш поўна выкарыстоўваць такі доўгатэрміновы фактар, як падзел грамадскай працы на тэрытарыяльным узроўні ці паміж краінамі. Канцэнтрацыя намаганняў і рэсурсаў якой-небудзь дзяржавы на адным канкрэтным напрамку дае ёй магчымасць дасягнуць там больш хуткіх поспехаў. Калі ж асобныя нацыянальныя эканомікі дапаўняюць адна адну, а кожная на сваім накірунку забяспечвае больш паскораныя тэмпы развіцця, то і ўся супольнасць мае значную карысць. Вось тая аб'ектыўная станоўчая аснова, якая і абумоўлівае стварэнне рэгіянальных і іншых саюзаў і, больш таго, стварэнне сусветнай гаспадаркі.

***--Урэшце карціна атрымліваецца досыць станоўчая...***

-- Увогуле так. Але... Нярэдка ўзнікаюць адносіны, калі нехта з партнёраў ці, нават, кожны хоча ад гэтага саюза атрымаць пабо-лей, і не супраць таго, каб а[illegible] маць болей, чым мае на [illegible]а права. І вось тут пачынаецца ціхая або наадварот гарачая, крыклівая, калі як, барацьба за прывілеі. Таму для кожнай краіны канкрэтныя вы[illegible]і інтэграцыі залежаць ад тага[illegible] яна здолее адстойваць уласныя правы і інтарэсы ў межах сусветнай гаспадаркі і рэгіянальнага аб'яднання.

Сёння казаць што-небудзь пэўнае пра вынікі беларуска-расійскіх інтэграцыйных працэсаў цяжка: яны праявяцца не так хутка. Дамова падпісана толькі другога красавіка, а вы ведаеце, як у нас доўга цягнецца час ад падпісання дакумента да яго рэалізацыі. Таму пакуль можна разважаць толькі пра надзеі. Між іншым, мы не ведаем, якімі яны стануць пасля шаснаццатага чэрвеня -- прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Хаця інтэграцыя, як я ўжо казаў, шлях аб'ектыўны, ролю асобы таксама нельга не ўлічваць, асабліва ў грамадскіх працэсах. Ад таго, хто стаіць на чале дзяржавы, залежыць вельмі многа: куды будзе павернуты палітычны руль. Пра Расію мы пакуль гэтага не ведаем. Таму я зноў вяртаюся да сваіх слоў: інтэграцыя -- працэс станоўчы, што ж канкрэтна з гэтага атрымае Беларусь, залежыць ад таго, наколькі мы будзем адстойваць свае інтарэсы. Вось стрыжань праблемы. І тут, мне думаецца, вельмі важны наступны момант. Што трэба для таго, каб Беларусь была здольная пастаяць за сябе ў рамках усіх сённяшніх саюзаў: беларуска-расійскага, мытнага, саюза чатырох ці дванаццаці ў рамках СНД? Адны кажуць, усё залежыць ад добрай волі палітыкаў. Другія -- патрэбны механізмы. Нехта яшчэ згадвае пра спрадвечную дружбу.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

КАНКУРС У ГАЙНАЎЦЫ



**Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі прайшоў у польскім горадзе Гайнаўка. Пятнаццаты раз сюды з'ехаліся лепшыя царкоўныя хоры, свецкія аматарскія і прафесіянальныя харавыя калектывы з трынаццаці краін свету.**

**НА ЗДЫМКУ: прафесар Віктар РОЎДА [illegible]лікім ганаровым прызам.**

*(Заканчэнне фотарэпар[illegible] на 4-й стар.).*

ІНТЭРВ'Ю З НАГОДЫ

## БЕЛАРУСІ -- УСЁ, ШТО МАГУ

**Нядаўна народнаму артысту Беларусі мастацкаму кіраўніку балета Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета акадэміку Валянціну Елізар'еву ўручаны прэстыжны прыз і дыплом Міжнароднай асацыяцыі дзеячаў харэаграфіі "Бенуа дэ ла дэнс". Гэта вышэйшая ўзнагарода свету за лепшую харэаграфію, якую да беларускага маэстра атрымалі ўсяго чатыры чалавекі. Пяты -- ЕЛІЗАР'ЕЎ.**

**З гэтай нагоды мы звярнуліся да Валянціна Мікалаевіча з просьбай аб інтэрв'ю. Нягледзячы на вялікую занятасць ён знайшоў час, каб адказаць на нашы пытанні.**

*-- Якой, на ваш погляд, павінна быць доля нацыянальнага ў рэпертуары тэатра?*

-- Я лічу, што ў любым тэатры ўдзельная вага нацыянальнага павінна быць сур'ёзнай і адчувальнай. Яно, нацыянальнае, павінна добра суадносіцца і з класічнай спадчынай, і з сучасным, еўрапейскім і сусветным поглядам на танец. Мы жывём на гэтай зямлі, наш абавязак гаварыць аб яе мінулым і сучасным, паспрабаваць зазірнуць у будучыню.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ЮБІЛЕЙ ГОРАДА



**У Баранавічах перад гараджанамі выступае адзін з 27 народных самадзейных калектываў -- папулярны ансамбль танца "Юнацтва" бабаўнянапапяровага вытворчага аб'яднання.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).*

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## СТВАРЫЦЬ ПРАВАВУЮ ДЗЯРЖАВУ

***З выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКАГА на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання 4 чэрвеня 1996 года***

Гаворачы пра шляхі канструктыўнага супрацоўніцтва паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі, на наш погляд, трэба яшчэ раз зрабіць спробу знайсці шляхі ўзаемадзеяння паміж дзвюма названымі галінамі ўлады пры пошуку адказу на самае галоўнае пытанне: якую мадэль грамадства мы хочам мець у выніку ажыццяўлення рэформаў?

У гэтай сувязі на нарадзе з удзелам Старшыні Вярхоўнага Савета, яго намеснікаў, а таксама старшынь пастаянных камісій эканамічнага профілю і па міжнародных справах вырашана яшчэ раз звярнуцца да выказанай мной ідэі: для вырашэння ўказанай праблемы аб'яднаць пад кіраўніцтвам Прэзідэнта намаганні Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, вучоных і вопытных вытворцаў.

* * *

Узаемных кансультацый усіх палітычных сіл патрабуе і палітычная абстаноўка, што абвастрылася ў апошні час у грамадстве. Прэзідыум Вярхоўнага Савета асабліва непакоіць тое, што ў канфрантацыю з уладамі ўступае значная частка моладзі. У Прэзідыума Вярхоўнага Савета ёсць прапанова: літаральна ў бліжэйшы час правесці пасяджэнне "круглага стала", на якое запрасіць прадстаўнікоў усіх палітычных і грамадскіх арганізацый, прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, Кабінета Міністраў, Генеральнага пракурора, міністра юстыцыі, а таксама міністраў сілавых міністэрстваў.

Нам трэба перастаць бачыць ворагаў у іншадумцах, а навучыцца іх слухаць. Пры гэтым я далёкі ад той думкі, што пры навядзенні парадку не трэба звяртацца іншы раз да сілавых метадаў. Трэба, але сіла неабходна толькі для ўтаймавання небяспечных людзей, а не для тых, хто супраць нечага выступае ці нечым абураецца, тым больш што для абурэння ў нас прычын больш чым дастаткова.

* * *

Я не бачу, паважаныя калегі, альтэрнатывы палітычнай сістэме, якая базіруецца на плюралізме меркаванняў і шматпартыйнасці, забеспячэнні ўмоў для кожнага чалавека свабоднага развіцця асобы, уключаючы свабоду веравызнання. Дарэчы, я в[illegible] працiўнік таго, што часам рэлігійныя дзеячы ўц[illegible]юцца ў палітыку. Царква павінна быць аддзелена ад дзяржавы, ад школы, вызнаванне той ці іншай рэлігіі -- гэта справа самога чалавека, самога грамадзяніна.

Я не бачу альтэрнатывы прававой дзяржаве, дзе б вяршэнстваваў закон, а ствалом усёй грамадскай сістэмы была не нейкая адна галіна ўлады, а тым больш адна асоба, а Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Х[illegible] бы пры гэтым падкрэсліць, што перад законам пав[illegible] быць усе роўныя. Парушаць закон нікому не дазволена, і нам трэба як мага хутчэй прыняць закон, дзе б прадугледжвалася самае суровае пакаранне за парушэнне ці невыкананне закона.

* * *

Пытаннем, якое цяпер узмоцнена дэбатуецца не толькі ў нас, у Вярхоўным Савеце, і кабінетах выканаўчай улады, але і ў грамадстве ў цэлым, з'яўляецца пытанне аб лёсе нашай дзяржавы ў сувязі са стварэннем Супольніцтва з Расіяй, і я не магу не выказацца на гэты конт. Маё цвёрдае перакананне, што паглыбленне эканамічнай інтэграцыі з Расіяй -- гэта аб'ектыўны і неабходны працэс.

У той жа час, нягледзячы на любую глыбіню эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй, Рэспубліка Беларусь павінна заставацца суверэннай дзяржавай, як мы і прадугледзелі ў рашэнні Вярхоўнага Савета. Больш таго, інтэграцыя з Расіяй не павінна процідастаўляцца пашырэнню і паглыбленню сувязі з іншымі краінамі.

Выкарыстоўваючы сваё геастановішча, нам трэба весці ўмераную, але ў той жа час дакладна абазначаную палітыку на ўмацаванне сваёй дзяржаўнасці, а не на яе размыванне. Для нас вельмі важна, каб Рэспубліка Беларусь як мага хутчэй стала членам Савета Еўропы і больш актыўна праяўляла сябе пры правядзенні міжнародных форумаў. Нам трэба мець добрыя адносіны як з краінамі-суседзямі, так і з больш далёкімі краінамі.

* * *

На наш погляд, нам таксама трэба ўзняць на шчыт нашу беларускую нацыянальную ідэю, вядома ж, не ўпадаючы пры гэтым у нацыяналізм. Сусветная практыка паказала, што без гэтага ніводная дзяржава не мела поспеху ў сваім развіцці. І Вярхоўны Савет павінен тут унесці сваю лепту, пачынаючы, можа быць, з парламенцкіх слуханняў пытання аб багатай гісторыі і культуры беларускага народа, з выхадам пасля гэтага на прыняцце пэўных рашэнняў.

Пры гэтым усе мы разумеем, што для кожнага з нас асаблівае значэнне мае руская культура, на якой мы выхоўваліся, але яна не павінна зацямняць родную для нас самабытную беларускую культуру. Веданне рускай культуры не павінна падмяняць неабходнасць вывучэння шэдэўраў сусветнай культуры. Наданне рускай мове статусу раўнапраўнай з беларускай я, напрыклад, разглядаю як абавязак кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, і ў першую чаргу, дзяржаўных служачых, ведаць адну і другую мову. Пры гэтым, па-першае, раўнапраўная ў зносінах, на наш погляд, яшчэ не значыць дзяржаўная, а па-другое, вывучэнне рускай мовы не павінна адбывацца ва ўрон вывучэнню іншых прызнаных сусветнымі моў, у першую чаргу, англійскай мовы.

Асаблівае значэнне ў адраджэнні беларускай гісторыі і культуры мае адраджэнне і развіццё нашых старажытных культурных цэнтраў, такіх, як Полацк, Навагрудак, Тураў, Мсціслаў, Мір і многіх іншых. Можа быць, гэтае пытанне таксама мэтазгодна заслухаць на адной з сесій Вярхоўнага Савета.

І апошняя праблема, на якой я хацеў бы спыніцца і выказаць свае меркаванні, -- гэта праблема ўдасканалення дзяржаўнага кіравання, бо, як паказвае гісторыя той жа сталыпінскай рэформы, нельга карэнным чынам рэфарміраваць эканамічны базіс пры захаванні старой палітычнай надбудовы.

У нашай жа рэспубліцы, як і ў іншых краінах СНД, у гэтым плане калі і змянялася нешта ў параўнанні з таталітарнай сістэмай кіравання, дык толькі ў горшы бок. Адміністрацыя Прэзідэнта пакуль што імкнецца заняць месца палітбюро непадзельна кіруючай у свой час камуністычнай партыі, а Прэзідэнт -- яе генсека.

Што датычыцца Кабінета Міністраў, дык тут нічога, акрамя назвы, не змянілася. Чарада ўсё тых жа намеснікаў прэм'ера, існаванне якіх, на мой погляд, значна прыніжае ролю і адказнасць міністраў у развіцці галіны. І наогул роля Кабінета Міністраў як органа дзяржаўнага кіравання значна прыніжана, бо ён не з'яўляецца самастойным органам, а літаральна намертва прыкаваны да Адміністрацыі Прэзідэнта. Ён нават, як вядома, не мае заканадаўчай ініцыятывы.

*МЫ І СВЕТ*

## БЕЛАРУСЬ У ЦЕІ

**Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько прыняў удзел у сустрэчы міністраў замежных спраў дзяржаў -- членаў Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы, якая завяршылася ў Вене.**

**На гэтым рэгіянальным форуме, які да гэтага часу аб'ядноўваў 10 дзяржаў -- Аўстрыю, Боснію і Герцагавіну, Венгрыю, Італію, Македонію, Польшчу, Славакію, Славенію, Харватыю і Чэхію, -- Рэспубліка Беларусь была прынята ў састаў паўнапраўных членаў ЦЕІ. Новымі членамі гэтай еўрапейскай структуры сталі таксама Албанія, Балгарыя, Румынія і Украіна.**

**Статус паўнапраўнага члена ЦЕІ дасць магчымасць істотна пашырыць удзел Беларусі ў агульнаеўрапейскіх працэсах, значна актывізаваць шматбаковае гандлёва-эканамічнае і гуманітарнае супрацоўніцтва ў цэнтральна-еўрапейскім рэгіёне.**

*БРЫФІНГ ДЛЯ ВАЕННЫХ АТАШЭ*



**На Барысаўскім танкаматорным заводзе адбыўся брыфінг для ваенных аташэ, акрэдытаваных у Беларусі, па пытаннях выканання рэспублікай міжнародных пагадненняў у галіне раззбраення і кантролю над узбраеннем. Ваенныя аташэ ЗША, Германіі, Кітая, Індыі і іншых краін азнаёміліся з цэхамі рамонтнага завода Міністэрства абароны, на якім ідзе дэмантаж бронетэхнікі.**

**НА ЗДЫМКУ: замежныя ваенныя аташэ ў цэху, дзе ідзе дэмантаж баявых машын пяхоты.**

*КАНГРЭС ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ*

## СТВАРЫЦЬ КЛІМАТ НАЙБОЛЬШАГА СПРЫЯННЯ

**Першы кангрэс дзеячаў культуры дзяржаў-удзельніц СНД 31 мая завяршыў сваю работу. Пасля двухдзённага абмеркавання набалелых праблем, якія аб'ядноўваюць краіны былога СССР, удзельнікі кангрэсу прынялі Зварот да кіраўнікоў усіх дзяржаў Садружнасці.**

**У ім, у прыватнасці, указваецца на тое, што нягледзячы на ўсе складанасці, якія перажываюцца зараз у кожнай дзяржаве, культура даказала сваю жыццёвасць і імкненне да шырокага супрацоўніцтва. Разам з тым многае перашкаджае эфектыўнай дзейнасці ўстаноў культуры і творчых саюзаў. Гэта і непрадуманая падатковая палітыка, і нізкая аплата працы работнікаў культуры, і спыненне дзейнасці ўстаноў культуры. Звяртаецца ўвага ў дакуменце і на выпадкі парушэння правоў чалавека ў сферы творчасці і свабоды слова.**

*ЗБРОЯ ВЫРАБЛЯЕЦЦА Ў ГОМЕЛІ*



**За тры месяцы 1996 года работнікамі Гомельскага ўпраўлення ўнутраных спраў ліквідавана столькі наразной агнястрэльнай зброі, колькі раней ліквідоўвалася за тры гады. Асаблівай вынаходлівасцю вызначаецца рабочыя вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш": пісталет-ручка і пераабсталяваны газавы пісталет -- гэта тут учарашні дзень. Сёння ў заводскіх умовах саматужна выраблялецца "Макараў", а нядаўняя знаходка гомельскіх сышчыкаў -- малакаліберная вінтоўка з аптычным прыцэлам і глушыцелем.**

**НА ЗДЫМКУ: намеснік начальніка экспертна-крыміналістычнай лабараторыі пры Гомельскім УУС Мікалай ВІШНЕЎСКІ і эксперт-лабарант лейтэнант Вольга МАХАВА з ліквідаванай зброяй.**

*ЮНЫЯ МАСТАКІ БРЭСТА*

## НА РАДЗІМЕ КЛІМУКА

**У вёсцы Тамашоўка, дзе нарадзіўся і вырас лётчык-касманаўт Пётр Клімук, прайшоў дзесяцідзённы сход маладых мастакоў Брэста. Гэтае мерапрыемства камбіната "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў арганізавана пры садзейнічанні фонду Напалеона Орды з мэтаю падтрымкі маладых талентаў.**

**Лепшыя работы адабраны для экспазіцыі на радзіме славутага земляка.**

*ПРАДМЕТ ГОНАРУ*

## ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР БЕЛАРУСІ

**31 мая 1996 года быў урачыста адкрыты спецыяльны геадэзічны комплекс у гонар геаграфічнага цэнтра Рэспублікі Беларусь. А месціцца гэта беларуская славутасць каля вёскі Антонава Навасёлкаўскага сельсавета, што ў Пухавіцкім раёне.**

**Пры вызначэнні цэнтра былі пакладзены ў аснову работы ажно 18 версій падлікаў. Вынас геаграфічнага цэнтра на мясцовасць ажыццяўляўся з дапамогай высокадакладнай спадарожнікавай сістэмы. Усе атрыманыя даныя былі закладзены ў камп'ютэр. Цяпер каардынаты геаграфічнага цэнтра краіны і яго спадарожнікаў занесены ў Дзяржаўны геадэзічны каталог у якасці пунктаў дзяржаўнай геадэзічнай сеткі.**

*"БЕЛАРУСКАЯ КНІГА--96"*



**У Нацыянальнай бібліятэцы рэспублікі адкрылася выстава "Беларуская кніга-96". На ёй прадстаўлена каля 600 выданняў. Гэта літаратура самых розных напрамкаў: навуковая, мастацкая, вытворчая, навукова-папулярная, кнігі для дзяцей і юнацтва. У экспазіцыі прадстаўлена прадукцыя дзесяці дзяржаўных выдавецтваў і шэрагу недзяржаўных выдавецкіх арганізацый.**

**У час адкрыцця экспазіцыі адбылася прэзентацыя першага тома 18-томнай універсальнай "Беларускай энцыклапедыі", выпушчанай выдавецтвам "БелЭН". Апошні том плануецца выдаць да 2000 года.**

**НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця выставы.**

ЮБІЛЕЙ ГОРАДА





Свае 125-годдзе адзначылі ў майскія дні Баранавічы. Нягледзячы на маладосць, горад па сваёй значнасці, прамысловаму і культурнаму патэнцыялу займае шостае месца сярод гарадоў рэспублікі. Каля двухсот тысяч яго жыхароў складаюць чыгуначнікі, работнікі лёгкай прамысловасці і станкабудавання, ваенныя і культработнікі, педагогі.

НА ЗДЫМКАХ: На свяце ў Баранавічах развяваліся сцягі многіх гарадоў, з якімі яны сябруюць; цэнтральная плошча горада ў дні святкавання.

Фота Эдуарда КАБЯКА.

# БЕЗ ДУХОЎНАЙ АСНОВЫ НЯМА ЭКАНОМІКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Многа чаго гавораць. Але чамусьці забываюць, як мне здаецца, самае галоўнае: усё залежыць ад таго -- што ў кожнага боку, які ўдзельнічае ў перагаворах, за спіной. Калі вырашаюцца палітычныя пытанні, глядзяць, у каго якая армія. Сталін, калі вёў справы з Рузвельтам, Чэрчылем і дэ Голем, быў вялікім дыпламатам у тым ліку і таму, што за ім у той час стаяла войска, якое паказала ў вайне з Гітлерам, што яно мацнейшае за ўсіх іншых. А таму, хацелі партнёры ці не, яны былі абавязаны слухаць і пагаджацца.

Што датычыць эканамічных саюзаў, усё залежыць ад таго -- якая эканоміка, наколькі яна канкурэнтаздольная, а ў даным канкрэтным выпадку, наколькі Расія зацікаўлена ў эканамічных сувязях з Беларуссю. Калі мы будзем мець у нашай нацыянальнай эканоміцы такія галіны, якія па сваіму навукова-тэхнічнаму ўзроўню пераўзыдуць адпаведныя расійскія, тады ў нашай дэлегацыі моцныя тылы. Калі ж кожны сегмент беларускай эканомікі стане ўсяго толькі бездапаможным прыдаткам адпаведнага расійскага, то колькі прэзідэнт Лукашэнка з прэзідэнтам Ельцыным у тэніс гуляць ні будуць, карысці вялікай ад гэтага не атрымаецца.

Таму на ўсіх перакрыжаваннях кажу: браткі-беларусы, я за інтэграцыю, але давайце, як мага хутчэй, вызначым тыя накірункі навукова-тэхнічнага прагрэсу, па якіх мы можам мець прыярытэт, можам апярэдзіць гэтага вялікага гегемона -- расійскую эканоміку, хаця б на паўкрока. А потым неабходна сканцэнтраваць там увесь наш інтэлектуальны патэнцыял, матэрыяльныя рэсурсы, і пачаць распрацоўваць новыя высокія тэхналогіі, якія абумоўліваюць увесь навукова-тэхнічны прагрэс. І ні ў якім разе не страціць набытае першынство.

***-- А ці існуюць сёння ў нас такія перспектыўныя накірункі!***

-- На жаль, дакладна адказаць на гэтае пытанне я не змагу. Тут яшчэ трэба правесці спецыяльныя даследаванні, для якіх аднаго эканамічнага аналізу недастаткова. Неабходна ўлічваць многія абставіны. У прыватнасці, не пашкодзіць ведаць, на якой ступені развіцця ў патэнцыяльных канкурэнтаў знаходзіцца галіна, на якую мы робім стаўку, напрыклад, тая ж лазерная тэхніка і тэхналогія, вылічальная тэхніка, вытворчасць халадзільнікаў, прапашных трактароў, усё тое, чым прывыклі ганарыцца. І калі гэта не проста пахвальба, а аб'ектыўная ацэнка стану спраў, трэба сканцэнтравацца, захапіць лідэрства і моцна яго ўтрымліваць. Трэба, каб Расія была зацікаўлена купляць наш трактар, а не вырабляць свой. А яшчэ лепш, каб наш трактар быў лепшы і за японскі, таму што можа скласціся становішча, калі Расія аднойчы скажа: "Ага, вы яшчэ выкандыбваецеся перад намі, тады мы купім японскі трактар, а беларускі трактарны завод няхай кладзецца на лапаткі. Ці, у вас лазеры добрыя? А ў Сінгапуры і Тайвані лепшыя. Мы купім ... ". Сёння мала першынства ў рамк... двухбаковага саюза, трэба імкнуцца значна далей.

***-- Ці рэальна гэта ў цяперашніх абставінах!***

-- А калі не...альна, тады трэба пагадзіцца з т... што намі будуць кіраваць, а мы -- ...расіць. Дарэчы, хачу сказаць, у рынкавай эканоміцы просьба мае нулявы эфект. Думаю, у гэтым ужо пераканаліся за апошнія пяць гадоў, калі была разбурана камандна-адміністрацыйная сістэма, што забяспечвала ўраўнілаўку і ўтрыманства. Зараз мы бачым: нярэдка ўчарашні сябар, калі мае магчымасць пацягнуць на сябе болей, ён пацягне.

***-- Але ў нас вельмі пашыраны настрой спадзявання не столькі на сябе, колькі на дапамогу збоку, чыюсьці спагаду.***

-- Хачу пра гэта і сказаць: сапраўды мы вельмі вялікае значэнне надаём асабістым адносінам паміж прэзідэнтамі, занадта шмат разважаем пра славянскую агульнасць, пра тое, што мы ўсе выйшлі з аднаго былога Савецкага Саюза, разам перамаглі агульнага ворага ў мінулай вайне. Усё гэта добра, правільна і таксама адыгрывае пэўную ролю, але толькі на першых кроках інтэграцыі. Далей стаўка робіцца на рэальныя здабыткі эканомікі. Калі яны будуць, то і беларуская дэлегацыя зможа паспяхова весці перамовы і здолее выпрацаваць такі юрыдычны, арганізацыйна-прававы механізм, які дазволіць краіне забяспечыць раўнапраўе ў любым саюзе.

***-- Ці можна спадзявацца, што за беларускай спіной яшчэ "маячаць" нашы нафтаперапрацоўчыя заводы, транспартныя магістралі, трубаправоды!***

-- Пакуль што ў пэўным сэнсе, так. У сувязі з гэтым згадваюць і такі беларускі козыр, як геапалітычнае становішча краіны. Але можа здарыцца, што мы і не заўважым, як усімі перавагамі пачнуць карыстацца іншыя: калі нехта скупіць нашы нафтаправоды, то менавіта ён будзе выкарыстоўваць наша геапалітычнае становішча ў сваіх мэтах, калі якая-небудзь фірма пабудуе ў Беларусі дарогі, створыць акцыянерныя таварыствы і будзе мець там 51, а яшчэ лепш 75 працэнтаў агульнага капіталу, то таксама не мы, беларусы, будзем у прыбытку, а тая фірма.

Хачу звярнуцца яшчэ да адной вельмі вострай праблемы: захаванне нацыянальнага інтэлекта, які мы імкліва страчваем. Зразумейце, палітыкам звычайна няма калі разважаць, яны толькі вырашаюць. А таму трэба, каб былі людзі, якія думаюць, даюць палітыкам рэкамендацыі, і тыя імі карыстаюцца. Павінны быць своеасаблівыя разумовыя штабы. А яны знікаюць. Гэта наводзі... мяне жах. І тады ад інтэграцыі ма... ...арысці. Бо тады нам будуць пакідаць столькі, каб мы толькі засталіся жывымі і да нас можна было ўзяць тое, што некаму патрэбна.

***-- Здаецца, беларускі ад...цыйны, навукова-тэхнічны патэнц... бадай, ці не адзінае, што магло б вырАтаваць эканоміку і краіну ўвогуле!***

-- Ведаеце, вучоныя, эканамісты-міжнароднікі гавораць так: да нядаўняга часу ўзровень развіцця якой-небудзь краіны абумоўліваўся яе матэрыяльнымі і прыроднымі рэсурсамі. Але яны сёння знаходзяцца на мяжы поўнага выкарыстання, а ў такім выпадку развіццё грамадства робіцца немагчымым. Таму сусветная супольнасць падышла да высновы, што адзіным рэсурсам, які будзе забяспечваць паступальны прагрэс, з'яўляецца інтэлект. Ён зможа забяспечыць мала-рэсурсныя тэхналогіі і вытворчасць.

***-- Як вы ацэньваеце мытны саюз паміж Беларуссю і Расіяй!***

-- Зноў-такі, як яго можна ацэньваць: чытаеш нейкія дакументы, там усё так завуаліравана. Аднойчы на сустрэчы ў прэзідэнта я сказаў: у мяне няма дакладнага меркавання, бо я не ведаю рэальнага стану спраў, усё трымаецца ў нейкай незразумелай тайне. Я ж павінен быў прачытаць усе пратаколы, пагладзець усе разлікі, а дзе яны?

Увогуле нейкае ажыўленне на ўзроўні асобных прадпрыемстваў пасля падпісання мытнага пагаднення ёсць. Але агульнае падзенне вытворчасці працягваецца, прадукцыя ва ўсё большай колькасці асядае на складах. А гэта вельмі насцярожвае.

***-- Ці можна казаць, што ў краіне пачынае выкрышталізоўвацца больш-менш дакладная эканамічная мадэль! Або і па сённяшні тут гаспадарыць хаос, ідзе нагрувашчванне ўзаемавыключаючых элементаў і рашэнняў!***

-- Пакуль належнай пэўнасці няма. І перш за ўсё таму, што цалкам само грамадства не вызначылася. Якую дзяржаву будуем? І ці наогул патрэбна яна? Мы сёння задаемся нават і такім пытаннем. Так, гаворым, што дзяржава патрэбна, але я не бачу канкрэтных крокаў у гэтым накірунку. Эканоміка наогул нікуды не ідзе. Туды-сюды патуркаемся, і ўсё.

***-- Як тады можна заключаць эканамічны саюз з Расіяй, дзе няхай мала-памалу, але рынкавае рэфармаванне рухаецца наперад!***

-- Усё так. Наогул, калі мы гаворым пра інтэграцыю, то пытанняў больш, чым адказаў.

Нядаўна ў нас праходзіла навуковая канферэнцыя, дзе выступала юрыст з маскоўскай дэлегацыі, якая заўважыла, што ў нядаўна падпісанай дамове поўная акрэсленасць толькі ў тым, што зроблена. А дзе справа датычыцца намераў, то яны мала зразумелыя.

Увогуле, хачу зноў вярнуцца да таго, пра што ўжо казаў, але гэта вельмі важна. Супрацоўніцтва павінна грунтавацца на дакладных разліках у кожнай канкрэтнай галіне, у кожным канкрэтным выпадку. Я ж не ведаю, хто і дзе ў нас гэта зрабіў. Чуў, калі з высокіх трыбун казалі, што такі аналіз ёсць, але гэта і ўся інфармацыя. Мы таксама, як і вы, як і большасць народа, вымушаны зыходзіць толькі з таго, што нам "вяшчаюць" нашы кіраўнікі.

***-- Карацей, інтэграцыя, безумоўна, рэч нядрэнная, але і не панацэя!***

-- Не панацэя. Але досыць складаны механізм ці фактар павышэння эфектыўнасці вытворчасці і ўзроўню жыцця, якім трэба вельмі ўмела карыстацца. Тут шапкамі не закідаеш, патрэбны дакладны разлік, халодны розум і цвёрдая палітычная воля.

***-- Генадзь Міхайлавіч, калі ў вас пытаюцца як у вучонага, эканаміста, што ж трэба, у першую чаргу, зрабіць, каб хутчэй вырвацца з таго зачараванага кола развалу, у якім апынуліся, як вы адказваеце!***

-- Над гэтым пытаннем я вельмі многа разважаў. Мне ўяўляецца, што ў нашых айчынных навуковых распрацоўках, публікацыях многа было напісана і сказана слушнага і карыснага. Каб усё ўдалося сабраць разам, прывесці ў сістэму, скласці праграму стратэгіі і тактыкі, то гэтага было б дастаткова для пачатку паступальнага руху наперад.

Але ў краіне ідзе палітычны раздрай, у нас няма пэўнага адзінства нацыі, мы не знайшлі духоўнай асновы аб'яднання. Я нават думаю так, што самы геніяльны эканаміст не ў стане дапамагчы нам. Бо наш менталітэт пакуль не скіраваны на стварэнне. Задаюся пытаннем -- чаму? І думаю: таму, што нас заўсёды вучылі любіць увесь свет, але так і не навучылі любіць свой дом, вуліцу, горад ці вёску, лес, дзе знайшоў свой першы грыб, рэчку, дзе навучыўся плаваць... А гэта аснова таго духу, якога беларусам не хапае. Нярэдка, калі я так разважаю, з мяне пачынаюць смяяцца: маўляў, што за думкі для эканаміста. А я ўпэўнены, пакуль будзе чуцца такі смех, беларусам жыцця не дачакацца.

Гутарку вяла
Галіна УЛІЦЁНАК.

# БЕЛАРУСЬ -- ЗОНА СУТЫКНЕННЯ

## РОЗНЫХ КУЛЬТУРНЫХ ТРАДЫЦЫЙ І ФАРМІРАВАННЯ АСНОЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Аднак, з другога боку, беларусам таксама не ўдалося сфарміраваць цалкам выкрышталізаванага пачуцця нацыянальнага самавызначэння і агульнанацыянальнага палітычнага праекту.

З XIX стагоддзя ціск сучаснай "нармальнасці" быў моцным і гэтым тлумачыцца нараджэнне на Беларусі двух супрацьстаячых, але падобных тэндэнцый, якія імкнуліся, каб беларусы маглі стаць грамадствам цалкам падобным да іншых. Адны сыны беларускай зямлі, не маючы выразнай самасвядомасці, выключных і ўласных дзяржаўных традыцый, схіляліся да зліцця ў ясна акрэсленыя і ўжо развітыя дзяржаўныя традыцыі ці то расійскія, ці то польскія або літоўскія. Іншыя імкнуліся гвалтоўна да стварэння міфа аб існаванні сапраўднага старажытнага беларускага народа, які абапіраўся на выразныя этнічна акрэсленыя рысы. Аднак у беларускім выпадку ні адзін з тых шляхоў не мог прынесці хоць бы крыху псіхалагічнага камфорту, таму што грунтаваўся на адмаўленні часткі лакальнай традыцыі. Не ўдалося цалкам адмовіць беларускую спецыфіку, але не ўдалося таксама атаясамліваць сябе з якой-небудзь дзяржаўнай традыцыяй. Гэта адрознівала беларусаў ад усіх іх суседзяў, якія з большай ці меншай тэндэнцыйнасцю маглі аднак развіваць для сябе ідэю іх дзяржаўнасці да пэўнай ступені верагоднасці і аргументаванасці.

### ВЫТОКІ СУЧАСНАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПАЧУЦЦЯ

Пасля ўзрушэнняў і непаразуменняў, выкліканых развіццём этнічнага нацыяналізму, у свеце настала працвераджэнне. Сёння, вядома, што ўсюды ў свеце сучасныя нацыі пачалі паўставаць, пачынаючы з XIX стагоддзя разам з працэсамі сумеснага суіснавання, індустрыялізацыі і урбанізацыі. Сучасным светам кіруюць унармаваныя правілы. Народы ў сучасным разуменні раней не існавалі. Усюды ўнармавана большасць моў, адзяржаўлены культуры, уніфікаваны правілы, адшліфавана свядомасць. Гэта вынік развіцця сучаснай гаспадаркі і мабільнасці. Асобны чалавек, як і сацыяльныя групы, што не ўмяшчаюцца ва ўсталяваных зверху нормах, маюць прыкрае пачуццё непаўнавартаснасці і адсоўвання на абочыну. Такое пачуццё часта сустракалася на Беларусі.

Такі стан рэчаў з'яўляецца аднак адноснай навіной у гісторыі чалавека і неабходна яго зрэлятывізаваць, што павінна аблегчыць беларусам прыстасаванне да новых рэаліяў канца XX стагоддзя. Перад XIX стагоддзем ужываныя мовы не былі уніфікаваныя, але ўяўлялі сабой мазаіку з розных дыялектаў і гаворак. Пачуцці нацыянальнай прыналежнасці былі больш разрозненымі за кошт адчування сваёй адметнасці, і асобныя элементы тоеснасці напластоўваліся ў залежнасці ад рэгіёнаў, сацыяльаных слаёў, форм рэлігійных культаў. Вельмі часта розныя фактары суіснавалі між сабой, што перашкаджала такой гамагенізацыі грамадстваў, да якой мы прывыклі толькі пачынаючы з XIX стагоддзя. Стваральнікі сучасных нацыянальных праектаў выбралі і выкарысталі метадам адбору ў XIX і ў XX стагоддзях пэўныя элементы з гісторыі, на падставе якіх можна было б унушаць масам, што іх нацыянальная прыналежнасць існавала стагоддзямі і што дастаткова яе "абудзіць". Аднак фактычна гэты працэс не засноўваўся на абуджэнні спячых нібы нацыянальных сантыментаў, а на стварэнні цалкам новых контураў грамадскага жыцця, якія давалі магчымасць уключыць масы ў сучасны грамадскі рух. Падобна, што паводле нацыяналістычных тэрорый была пабудавана тэорыя, згодна з якой, напрыклад, усе французы павінны былі быць непасрэднымі нашчадкамі галаў, франкаў і каралёў Францыі, усе палякі прамымі нашчадкамі Пястаў і Ягелонаў, усе рускія і зрусіфікаваныя імі этнічныя групы павінны былі быць непасрэднымі нашчадкамі Кіева, цароў і г.д. Сёння вядома, што звычайны жыхар Францыі ніколі не меў да XIX стагоддзя пачуцця французскасці, зрэшты часта і па-французску не гаварыў аж да XIX стагоддзя. Тое ж самае датычыць усіх жыхароў Рэчы Паспалітай абодвух народаў, якія належалі да народных слаёў.

Такім чынам, чаму сёння, напрыклад, падкракаўскі паляк сялянскага паходжання меў бы права думаць, што яго продкі ўдзельнічалі ў жыцці польскага народа ад старажытнасці ў той час, як і беларус сялянскага паходжання з-пад Мінска не меў бы права падобна мысліць з гэтай жа нагоды. Тым больш, што на працягу цэлага перыяду існавання Рэчы Паспалітай абодвух народаў і селянін з-пад Кракава, і той жа з-пад Мінска мелі аднолькавае дачыненне (а гэта значыць -- амаль ніякага) да спраў дзяржаўных. І таксама ўсе ўдзельнічалі ў грамадскіх, культурных і гаспадарчых працэсах. Яны ў той час мелі вельмі падобнае пачуццё тоеснасці, якое абапіралася на прыналежнасць да лакальнай бацькаўшчыны і да розных форм культу. Адрозненняў у іх грамадскай свядомасці не існавала, а нацыянальнай свядомасці не было. Існавалі толькі рэгіянальныя адрозненні, пра якія рэдка хто-небудзь меў паняцце. Толькі пазнейшыя працэсы асучаснівання гісторыі прывялі да фарміравання ў сялян новых пачуццяў атаясамлівання і прыналежнасці іх да чаго-небудзь большага, чым іх непасрэднае акружэнне. Нацыянальныя пачуцці ў значнай ступені ўдалося прышчапіць, абапіраючыся на рэлігійную розніцу, якая стварыла новую сімволіку.

У той час (у XIX стагоддзі -- **М.Я.**), напрыклад, удалося пераканаць падкракаўскіх сялян, што яны сапраўдныя нашчадкі польскай дзяржаўнай традыцыі, але гэтага ж не ўдалося зрабіць з сялянамі з-пад Мінска. На Беларусі не было свецкіх або рэлігійных эліт, якія б патрабавалі развіцця асобнага нацыянальнага пачуцця. Барацьба паміж элітамі, якія схіляліся да Расіі, з элітамі, якія схіляліся да Польшчы, прывяла аднак да таго, што беларусы не змаглі атаясамліваць сябе выключна з адной дзяржаўнай традыцыяй. Адсюль нарадзілася пачуццё спецыфікі Беларусі.

Сутыкненне сялянскіх мас ці мас сялянскага паходжання з вялікімі праблемамі Еўропы, якая развівалася індустрыяльна, у той час прывяло да фарміравання масавых нацыянальных пачуццяў, якія адпавядалі інтэграцыйным патрэбнасцям грамадстваў і іх элітаў. Дзяржава, царква, грамадская эліта адыгрывалі ў тых працэсах вядучую ролю, прынамсі, у пачатковай фазе. У многіх выпадках за "кіраванне душамі" змагаліся аўтары некалькіх канкурыруючых нацыянальных праектаў, з якіх адзін нарэшце перамагаў на пэўнай тэрыторыі. Напрыклад, такім чынам брэтонцы сталі французамі, шатландцы сталі брытанцамі, горнасілезцы сталі палякамі, у той жа час ірландцы сталі асобнай нацыяй таксама як нарвежцы, ісландцы ці літоўцы. Грамадскі ціск знізу прывёў, у сваю чаргу, да развіцця інтэрнацыяналізму альбо новых форм больш дэмакратычнага патрыятызму. У сваю чаргу беларусы ніколі да канца не маглі зрабіць выбар паміж канкурыруючымі нацыянальнымі праектамі.

Такім чынам, няма падстаў, каб сённяшнія французы ці палякі нешляхетнага паходжання маглі б папросту верыць у міф іх адвечнай прыналежнасці да сваёй гістарычнай нацыі ў той час, калі б сённяшні беларус падобнага паходжання мог бы сябе адчуваць абдзеленым і мог бы паверыць, што "нарадзіўся ўчора".

**Бруна ДРВЕСКІ.**

*Пераклад з польскай мовы М. ЯНІЦКАЙ.*

**Працяг. Пачатак у № 23,**

## КОНКУРС У ГАЙНАЎЦЫ

**На працягу тыдня сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы быў месцам конкурсных выступленняў калектываў з Польшчы і Швейцарыі, Югаславіі і Румыніі, Расіі і ЗША, шмат іншых краін. Гонар нашай рэспублікі адстойвалі царкоўны хор з Віцебска, камерны хор з Пружан і Дзяржаўны хор радыё і тэлебачання Беларусі.**

**Усе беларускія калектывы адзначаны ўзнагародамі фестывалю, а кіраўнік Дзяржаўнага хору радыё і тэлебачання Беларусі прафесар Віктар Роўда ўдастоены Вялікага ганаровага прыза.**

**Завяршыўся фестываль "Гайнаўка-96" гала-канцэртам у саборы Святой Тройцы і ў Беластоцкай філармоніі.**





**НА ЗДЫМКАХ: у час гала-канцэрта ў саборы Святой Тройцы; выступае царкоўны хор з Віцебска.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## *НАВІНЫ БЕЛАРУСІСТАЎ*

### "ХУНГАРА--АЛЬБАРУТЭНІКА"

Так называлася навукова-практычная канферэнцыя, арганізаваная Венгерскай асацыяцыяй беларусістаў у другой палове красавіка. У яе праграме -- 18 дакладаў. Пачалася канферэнцыя выступленнямі Андраша Золтана (Будапешт), Міхалі Коцсіса (Сегед) і Сандорнэ Гелеі (Дэбрэцэн). Яны гаварылі пра венгерска-беларускія духоўныя кантакты, развіццё беларусістыкі ў паасобных гарадах, ахарактарызавалі Белую Русь, як гісторыка-геаграфічнае паняцце.

У канферэнцыі прынялі ўдзел госці з Беларусі -- Дзмітрый Караў (Гродна), Мікалай Прыгодзіч (Мінск). А Мікалаю Аляхновічу (Брэст) не трэба было спецыяльна ехаць: цяпер ён выкладае ў Будапешце беларускую мову.

### ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСКА-НЯМЕЦКАГА ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ

Пасяджэнні Міжнароднага "круглага стала" "Беларуска-нямецкае грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучасны стан, перспектывы", якія адбыліся ў Мінску 29--30 красавіка 1996 г., праходзілі нетрадыцыйна. Навуковая гаворка пра рэйнскі каменны посуд у Беларусі (А. Трусаў), пасляваенную нямецкую гістарыяграфію (Г. Сагановіч), нямецкі друк у Мінску ў час другой сусветнай вайны (І. Шлоотц), асаблівасці перакладу "Фаўста" І. Гётэ, зробленага В. Сёмухам (Я. Адамовіч), адукацыйныя сістэмы Беларусі і Германіі (М. Спрэен) ці дыялектныя германізмы (А. Станкевіч) перапынялася арыяй з оперы А. Радзівіла "Фаўст", якой вядомы спявак В. Скорабагатаў праілюстраваў свой даклад, ці відэафільмам пра доктара Зігфрыда Эрнста, вядомага ў Еўропе лекарагуманіста, які ў час акупацыі памагаў у Бытэні беларускім сялянам (адзін з тагачасных відавочцаў праф. М. Грынчык, выступіў з успамінамі-каментарыямі да фільма). А на апошнім пасяджэнні, калі ў дыскусію ўключыліся вядомы мастак М. Савіцкі, прадстаўнік Евангелісцкай царквы з Каселя Ф.Дорн, прафесары М. Крукоўскі і М. Саламонаў, гаворка набыла палемічны, публіцыстычны запал, перайшла на глабальныя праблемы -- лёс еўрапейскай культуры, сэнс жыцця.

Выступленні былі згрупаваны па "блоках" пытанняў: "Гістарычныя традыцыі", "Другая сусветная вайна і яе ўрокі", "Адукацыя, культура", "Філалогія", "Сучаснасць і перспектывы". Адкрыў пасяджэнні прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў А. Мальдзіс, з прывітаннямі выступілі пасол ФРГ у Беларусі Г. Альбрэхт, рэктар Беларускага універсітэта культуры Я. Грыгаровіч, нямецкі дырэктар Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра (IBB) К. Байер. У абмеркаванні ўдзельнічалі звыш сарака навукоўцаў, настаўнікаў і нават студэнтаў. Побач з Мінскам былі прадстаўлены Віцебск, Гомель, Гродна, Бабруйск, вёска Германавічы Шаркоўшчынскага раёна. З зарубежных гасцей, апрача згаданых ужо Ф. Дорна, М. Спрэен і І. Шлоотца, выступілі Н. Брэдэрлоў ("Беларусы паміж вайной і мірам"), М. Банькоўска-Цуліг ("Судакрананні паміж Беларуссю і нямецкамоўнай Швейцарыяй").

У заключным камюніке, прынятым удзельнікамі, гаворыцца, што дзеля ліквідацыі белых плям у гісторыі нашых адносін такія сустрэчы трэба праводзіць сістэматычна, не радзей, чым раз у два гады. Дзеля каардынацыі даследаванняў была выбрана Беларуска-нямецкая рада (яе ўзначаліў У. Сакалоўскі), а для падрыхтоўкі і выдання матэрыялаў -- рэдкалегія. Ёсць у заключным дакуменце і больш канкрэтныя пункты -- пра стварэнне сумеснага навучальнага дапаможніка, абмен бібліяграфічнай інфармацыяй, устаноўку на месцы лютэранскіх могілак у Мінску памятнага знака, упарадкаванне пахаванняў першай сусветнай вайны.

**Наталля МАРЦЫНКЕВІЧ.**

## СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСАМІ ЛАТВІІ

**Падчас візіту ў Латвію міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сянько адбылася яго сустрэча з прадстаўнікамі беларускай дыяспары. У цудоўным палацы, у якім размешчаны зараз Саюз пісьменнікаў Латвіі, госця з Мінска і Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі Валянціна Вялічку сустракалі дзеці Рыжскай беларускай школы, хор "Надзея".**

**Пра свае надзённыя клопаты гаварылі міністру і паслу намеснік старшыні рады Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" Вячка Целеш, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны "Прамень" Алесь Карповіч. Ад імя Даўгаўпілскага беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" слова ўзяў Мікола Паўловіч, які да таго ж узначальвае першасную суполку Міжнароднага фонду Янкі Купалы. Асацыяцыю беларускіх прадпрымальнікаў прадстаўляў Іван Кабановіч.**

**У Рызе ўтвораны Латвійскі фонд беларускай культуры. Адчуваюць нашы суайчыннікі клопат Латвійскай дзяржавы. Але і ад Бацькаўшчыны чакаюць апякунства, дапамогі ў вельмі многіх справах. На сустрэчы высокіх гасцей з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Латвіі вызначаны пункты ўзаемадзеянняў, шляхі падтрымкі іх культурна-нацыянальнага жыцця.**

**НА ЗДЫМКАХ: міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь У. СЯНЬКО, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы В. ВЯЛІЧКА на аглядзе выстаўкі творчай жыццядзейнасці латвійскіх беларусаў.**

**Тэкст і фота Сяргея ПАНІЗЬНІКА.**





## АЛЕСЬ БУРБІС: АД "МЕЙШАГОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ" ДА БССР

# ЁН ХАЦЕЎ АДКРЫЦЬ ВОЧЫ СВАЙМУ НАРОДУ

Алесь Лаўрэнавіч Бурбіс пражыў усяго 37 гадоў, але ў гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і ў беларускай тэатральнай культуры пакінуў значны след. Ён нарадзіўся 20 красавіка 1885 года ў Вільні ў сям'і дробнага чыноўніка ваеннага інтэндантства. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. Яшчэ будучы гімназістам, Бурбіс разам з іншымі беларускімі хлопцамі заснаваў у 1902 годзе Віленскую арганізацыю Беларускай Рэвалюцыйнай грамады -- першай беларускай сацыялістычнай партыі. Як сцвярджаў пазней Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), гэта партыя "грунтоўна паставіла пытанне сацыяльна-нацыянальнага вызвалення беларускіх працоўных гушчаў". Вядома, што большасць беларускага народа жыла ў пачатку XX стагоддзя ў вёсцы і сацыялістычныя ідэі пранікалі туды павольна і не вельмі шырока. Дзесяткі, сотні вёсак аб'ехалі Бурбіс і яго аднадумцы, праводзілі шмат сустрэч і гутарак з сялянамі, агітуючы за свае ідэі словамі і пракламацыямі, напісанымі імі ж ад рукі.

У 1903 годзе Беларуская рэвалюцыйная грамада правяла свой I з'езд, на якім адбылося перайменаванне яе ў Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Адзін з самых маладых дэлегатаў Алесь Бурбіс стаў членам Цэнтральнага камітэта.

У лістападзе-снежні 1905 года ў Мейшагольскай воласці Віленскага павета Алесь Бурбіс узначаліў рэвалюцыйнае выступленне насельніцтва, у выніку якога старая ўлада была скінута і ўзнікла "Мейшагольская рэспубліка". Паводле абвінаваўчага акта, А.Бурбіс з групай аднадумцаў (студэнт Калесніказ, сяляне Запольскі, Струй, Яруць і інш.) "самавольна" збіраў валасныя сходы, выступаў на іх, а таксама на базарнай плошчы, з балкона карчмы з прамовамі, у якіх заклікаў сялян не выконваць распараджэнняў царскіх улад, сілай адбіраць у памешчыкаў зямлю, праганяць земскіх начальнікаў, станавых прыставаў, валасных старшыняў, не плаціць падаткаў, не адбываць воінскай павіннасці, закрываць казённыя вінныя крамы. Фактычна гэта быў заклік звергнуць царскую ўладу шляхам узброенага паўстання. На валасным сходзе 14 снежня 1905 года А.Бурбіс зачытаў і прапанаваў сялянам зацвердзіць два прыгаворы. У адным з іх заяўлялася, што абяцаная ў Маніфесце 17 кастрычніка 1905 года Дзяржаўная дума народу не патрэбная і сяляне не павінны яе выбіраць. Нам, казаў Бурбіс, трэба дамагацца склікання Устаноўчага сходу, выбранага на аснове ўсеагульнага, роўнага, тайнага і прамога выбарчага права. Гэты сход прыме новыя законы, назначыць падсправаздачны яму ўрад, перадасць у карыстанне народа ўсю зямлю, прадаставіць усім грамадзянам свабоду слова, сходаў, сумлення, друку, саюзаў, недатыкальнасць асобы. Справамі кожнага краю належыць кіраваць яго выбраным. Нашаму краю неабходна поўнае самакіраванне з сеймам у Вільні. На валасных сходах голас даецца ўсім жыхарам воласці. Ускосныя падаткі і акцызы адмяняюцца, уводзіцца адзіны падаходны падатак. Скасоўваецца саслоўі. Вызваляюцца ўсе палітычныя вязні. Назаўсёды забараняецца пакаранне смерцю. Дзяржава за казённы кошт забяспечвае ўсеагульнае навучанне дзяцей на іх роднай мове.

Другі прыгавор датычыўся мясцовых спраў: ім скасоўвалася ўлада ранейшага валаснога праўлення, адмаўляліся ўсе падаткі і павіннасці на карысць антынароднага ўрада, назначаліся выбары новых кіраўнікоў воласці. "Мейшагольская рэспубліка" пратрымалася некалькі дзён. Наступ контррэвалюцыі прымусіў А.Бурбіса пакінуць "Мейшагольскую рэспубліку". Ён пераязджае на Міншчыну, дзе арганізоўвае выступленні сталяроў у Мінску і сельскагаспадарчых рабочых Навагрудскага павета. Пра сустрэчу з А.Бурбісам менавіта ў гэты час піша Янка Купала: "Пазнаёміўся я з ім напярэдадні рэвалюцыйнага 1905 года, калі памяць мяне не ашуквае, летам 1904 года. Гэта было ў горадзе Мінску. Прыехаўшы з вёскі, я трапіў на рэвалюцыйна-канспіратыўную кватэру. Усё гэта былі гарачыя шалёныя галовы, якія збіраліся цэлы свет перавярнуць дагары нагамі. Вось сярод іх быў Алесь Бурбіс, тады яшчэ малады, вясёлы, такі лёгкадаступны хлапчына. Кожную хвіліну можна было чакаць, што ўваліцца жандарская пання і пацягне ўсіх туды, адкуль няма вяртання, ва ўсякім разе, нялёгка выбрацца. Але для гэтых галоў страх не быў пісаны. І Бурбіс сыпаў сваімі вострымі слоўцамі, як з рэшата. Ён любіў жарт, любіў пасмяяцца, хоць гэта і быў смех скрозь слёзы. З размоў людзей, што сабраліся на гэтай кватэры, я зразумеў, што тут вырашаецца, абмяркоўваецца вельмі важнае пытанне аб тым, каб узняць увесь беларускі народ, усё беларускае сялянства супраць гвалтаўнікоў-паноў і іх спрадвечных здзекаў. У цэнтры гэтых планаў стаяла нацыянальнае і эканамічнае вызваленне Беларусі, і наперадзе ўсіх ішоў за свабоду і вызваленне беларускага сялянства Бурбіс... У той час ён ужо не толькі выступаў на патаемных масоўках, але і быў дзеячам актыўным, прыкладам чыста беларускім. Неўзабаве пасля першай жа сустрэчы маёй з ім пачаліся рабочыя забастоўкі ў Мінску".

Намаганнямі і энтузіязмам такіх падзвіжнікаў, як Бурбіс, уплыў БСГ рос і пашыраўся, і не толькі сярод сялянства, а і сярод рабочых Вільні, Мінска, Нова-Вілейкі.

У 1906 годзе А.Бурбіс вёў агітацыю і арганізоўваў забастоўкі рабочых -- сталяроў Мінска і сельскагаспадарчых рабочых Навагрудскага павета. Дарэчы, летам 1906 года забастовачны рух батракоў і сялян-падзёншчыкаў дасягнуў самага высокага ўзроўню на Беларусі. Жыў А.Бурбіс тады па фальшываму пашпарту на імя Генрыха Бухавіцкага. Пад гэтым прозвішчам 24 жніўня 1906 года ён быў затрыманы паліцыяй у вёсцы Дольная Шчорсаўскай воласці. Паліцэйскія доўга ламалі галовы, хто ён на самай справе, гэты нізкага росту, хударлявы і дробнатвары дзяцюк з фальшывым пашпартам, аднак той лічыў непатрэбным бліжкае знаёмства з сышчыкамі. Пры ім былі знойдзены маніфест "Ко всему российскому крестьянству" (4 экземпляры), маніфест "К армии и флоту", выдадзеныя ў ліпені 1906 года па ініцыятыве і пры ўдзеле бальшавікоў левымі партыямі і арганізацыямі. Разам з імі была лістоўка Беларускай сацыялістычнай грамады "Да ўсіх вясковых людзей" з дэвізам "Працавіта бедната ўсіх краёў, аб'ядноўвайся!", шыфраваная запіска. На падставе гэтых пракламацый пракурор Мінскага акругоўага суда зрабіў вывад, што "ўсе гэтыя творы заклікаюць сялян да адкрытага ўзброенага паўстання супраць урада".

"Г.Бухавіцкі" на следстве не прызнаў сябе вінаватым, растлумачыў, што прыехаў у Шчорсаўскую воласць з Мінска як карэспандэнт "Минской газеты", а пракламацыі знайшоў тут на дарозе, сабраў і машынальна паклаў у кішэню, каб пазней прачытаць іх. Следства не змагло раскрыць ні сапраўднага прозвішча арыштаванага, ні яго рэвалюцыйнай дзейнасці. Тым не менш "Г.Бухавіцкага" пасадзілі ў Навагрудскі турэмны замак, перапоўнены палітычнымі. У невыносных умовах і без таго слабае здароўе Бурбіса, ад прыроды малакроўнага, рэзка пагоршылася, узмацніліся нервовае расстройства і цяжкі задышны кашаль, з'явіліся сухоты, што зафіксаваў мясцовы турэмны ўрач. Пра гэта Бурбіс 9 верасня 1907 года напісаў пракурору Віленскай судовай палаты і папрасіў перавесці яго ў мінскую турму, дзе спадзяваўся знайсці нейкія лекі. Хадайніцтва яго задаволілі.

8 кастрычніка 1907 года Віленская судовая палата слухала справу "пра невядомага звання чалавека, які называе сябе Генрыхам Мацвеевічам Бухавіцкім, абвінавачанага па 2 ч. 132 арт. Крымінальнага ўлажэння". Абвінавачваемы ў асобай заяве адмовіўся прысутнічаць пры разборы яго справы, і палата завочна прыгаварыла яго да зняволення ў крэпасці на 1 год, але выкананне прысуду адклала, бо ў Мінску праводзілася следства па абвінавачанню Бухавіцкага "ў злачынствах, прадугледжаных 950, 951 і 977 арт. Улажэння аб пакараннях". 19 студзеня 1908 года А.Бурбіс адкрыў нарэшце судоваму следству сваё сапраўднае імя, і 11 лютага таго ж года яго часова выпусцілі на свабоду, а неўзабаве зноў пасадзілі за краты. У заяве на імя пракурора Віленскай судовай палаты ад 3 ліпеня 1908 года ён прасіў хутчэй назначыць судовы разбор справы, бо амаль двухгадовае турэмнае зняволенне "канчаткова разбурыла" яго слабае здароўе. Новы суд адбыўся 18 кастрычніка 1908 года. Бурбіса прысудзілі да 2 гадоў крэпасці без заліку папярэдняга зняволення. Пазней, праўда, палата ўлічыла цяжкі стан здароўя Бурбіса і тэрмін зняволення, якое ён закончыў у Вільні, скараціла. З турмы ён выйшаў у канцы ліпеня 1909 года.

За час знаходжання А.Бурбіса ў турме БСГ здрабнела, яе дзейнасць прыкметна змянілася: з рэвалюцыйнай і палітычнай яна набыла культурна-асветніцкую накіраванасць. Віленскі і Мінскі камітэты БСГ па сутнасці спынілі сваю працу, а найбольш прагрэсіўныя сілы партыі пачалі гуртавацца вакол штотыднёвай беларускай газеты "Наша ніва".

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**Працяг будзе.**

# БЕЛАРУСІ -- УСЁ, ШТО МАГУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

*-- Ці робіцца большай удзельная вага нацыянальнага ў мастацтве, ці майстры культуры звяртаюцца да агульначалавечых каштоўнасцей?*

— У розных краінах гэта адбываецца па-рознаму, універсальных рэцэптаў няма, але я лічу, што нават калі нацыянальныя трупы працуюць на матэрыяле далёкім ад праблем іх краін, яны ўсё роўна ствараюць нацыянальныя спектаклі, таму што над імі працуюць народжаныя гэтай зямлёю харэографы, артысты, кампазітары. І калі на гэтай зямлі ствараецца твор, непасрэдна не звязаны з яе гісторыяй, хочам мы ці не, але нацыянальны характар яго творцаў кладзе адбітак на тое, што ўрэшце рэшт атрымаецца.

*-- Але ж вы самі родам з Расіі...*

-- Ведаеце, у мяне вельмі дзіўны лёс. Я нарадзіўся ў Баку ў 1947 годзе. Яшчэ дзіцём мяне адвезлі ў Ленінград, дзе я скончыў дзве лепшыя навучальныя ўстановы, якія толькі можна было скончыць -- харэаграфічнае вучылішча імя Ваганавай і балетмайстарскае аддзяленне кансерваторыі імя Рымскага-Корсакава. У Мінск мяне запрасілі яшчэ студэнтам. З 1973 года я працую галоўным балетмайстрам Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. У 1982 годзе стажыраваўся ў Парыжы. Амаль усе мае пастаноўкі захаваліся ў рэпертуары тэатра.

*-- Чым стала для вас Беларусь за гэтыя гады?*

-- Усё маё жыццё звязана з гэтай зямлёю, тут нарадзіліся мае дзеці, адбылося станаўленне, развіццё. Напэўна, і я нешта зрабіў для Беларусі, ва ўсялякім разе, аддаваў ёй усё, што мог.

*-- Днямі вы сустракаліся з Прэзідэнтам. Аб чым была ваша размова?*

-- Гэта была афіцыйная сустрэча. Ён павіншаваў мяне з узнагародай, я ўздымаў важныя, надзённыя для нашага тэатра пытанні. Пасля размовы ў мяне засталося вельмі добрае ўражанне. Я адчуў яго зацікаўленасць у развіцці мастацтва.

*-- Як вам удалося ўзняць беларускі балет на такі высокі ўзровень?*

-- Толькі штодзённай пастаяннай працай. Называйце, як хочаце, -- праца, барацьба, бітва. Нічога не атрымаецца без добрай базавай адукацыі, а вынік складваецца гадамі.

*-- Якія спектаклі з большай цікавасцю ўспрымаюць за мяжою?*

-- Па-рознаму, гэта залежыць ад аўдыторыі, яе падрыхтаванасці. Непадрыхтаваная, выпадковая публіка аддае перавагу класіцы -- "Шчаўкунку", "Лебядзінаму возеру", "Спячай прыгажуні", а падрыхтаваная публіка ў добрых тэатрах успрымае ўсё. Таксама гэта залежыць ад горада -- у вялікім культурным цэнтры больш цікавяцца балетам.

*-- А як ставяцца за мяжою да "Рагнеды"?*

— Мы яшчэ не паспелі вывезці яе за мяжу, бо выпусцілі толькі паўгода таму. Але думаю, што гэты спектакль будзе ўспрымацца добра.

*-- Што даюць паездкі за мяжу?*

-- Яны патрэбны нам ва ўсіх адносінах. Гэта вялікая фінансавая дапамога як для тэатра, так і для нашых акцёраў. Таксама не трэба забывацца, што дзякуючы нашаму тэатру Беларусь становіцца вядомай у свеце. У Еўропе нас ужо вельмі добра ведаюць, і не толькі дзякуючы Чарнобылю. Мы паказваем, што ў нас ёсць нешта яшчэ, акрамя нашай бяды.

*-- У вас ніколі не ўзнікала думка аб тым, каб застацца за мяжою?*

-- Больш таго, мяне вельмі часта запрашаюць застацца працаваць па кантракту. Але ў мяне тут сям'я, дзеці, тэатр, я не магу паехаць надоўга і пакінуць усё гэта. Да таго ж, паверце, гэта толькі падаецца, што мы там патрэбны. Нас там ніхто не чакае. Дом -- тут, тут нам жыць, працаваць, тварыць.

**Веранiка ЧАРКАСАВА.**

# КАРАЛІШЧАВІЧЫ, КАРАЛІШЧАВІЧЫ...

*(СТАРОНКІ НЕ ХРЭСТАМАТЫЙНЫЯ)*

## 5. У ТОЕ РЫСІНАЕ ЛЕТА...

Таго лета ў Каралішчавічах аднойчы грымнуў пярэпалах: з'явілася рысь! Уначы падкралася да самага Дома і ценем праслізнула каля вогнішча...

Вогнішча па традыцыі, якая засталася яшчэ з часоў Міхася Лынькова, распальвала моладзь -- хлопцы і дзяўчаты, дзеці пісьменнікаў, што з'ехаліся ў Каралішчавічы ў свае летнія канікулы. Усе амаль аднагодкі, пераважна дзесяцікласнікі... Што тут казаць, і спеваў, і рогату, і рознага свавольства хапала не толькі ўдзень, а таксама і ўначы. І гэта тады, калі ў вялікім Доме разам са сваімі клапатлівымі бабулямі ўжо ў дзевяць гадзін вечара павінны былі засынаць малыя пісьменніцкія дзеці. І, зразумела ж, аддаными бабулі на варце дабрачыннасці і парадку стаялі насмерць. Адны ішлі ў наступ супроць маладой распусты з адкрытым забралам, другія вакол яе праведнымі вуснамі спляталі самыя неверагодныя ўзоры плётак... У такіх вось умовах вялася халодная вайна, як аднойчы раніцой усё роўна як узарвалася вадародная бомба. Увесь Дом прачнуўся разам з весткай: аб'явілася рысь!

Падумаць толькі, ніхто ж бы нічога не пачуў і не ўведаў, каб не гэтыя, на шчасце, урвісы! Гэта на вачах рысь падкралася да мага вогнішча, мільгнулася чырвоным футрам у зарыве і знікла ў цемры. Нехта паспеў заўважыць на вушах звера кутасікі. Сумнення не было: рысь... У некага былі дакладныя звесткі, што рысь на чалавека ь так з-пад ног не нападае, а ...даецца на галаву толькі з вышыні, звычайна стаіўшыся на дрэве. Кідаецца і кіпцюрамі і зубамі ўпіваецца ў шыю, высмоктвае кроў... Узнікла, а інакшай і быць не магло, страшэнная паніка. Усе ж былі з малымі дзецьмі і дагэтуль бясклапотна хадзілі ў лес на прагулкі, у грыбы, у ягады, і нікому ў галаву не магло прыйсці, што недзе ў гушчары верхавін за табою сочыць, цябе падпільноўвае лютая смерць. Зразумела, адразу ж усё было спынена: гульні, прагулкі, тым больш з дзецьмі, катэгарычна былі забаронены.

А тут зноў жа пад вечар таго ж дня нехта з кампаніі маладых хадзіў па цыгарэты ў суседнюю краму і чуў там, як жанчына з вёскі Сіняло расказвала, што рысь задрала ў іх калгасную карову. Каровы хадзілі пад лесам, і адной дурніцы надумалася ад чарады джагнуць у лес... А рысь, відаць, аблюбавала сабе схованку недзе на яліне -- і гэпнула на карову каменем. Пастух толькі пачуў, як нешта жаласна мыкнула. Калі ж ён дарваўся да таго месца, дык, кажа, убачыў толькі, як нейкі вялізны, усё роўна як кот, толькі з кароткім хвастом звер шаснуў з каровы ў гушчар ельніку. А задушаная карова ляжала на зямлі і сцякала крывёю...

Праз дзень пасля з ява рысі каля самага ганка фінскага доміка, дзе жыла сям'я Сабаленкаў, былі заўважаны сляды! Не сабачыя і не каціныя... Адбіткі пакінулі мяккія лапы невядомага звера. Гаспадыня не разгубілася і адразу ж накрыла сляды -- як непарушныя доказы -- бляшанымі ночвамі і тазамі. Калі дагэтуль і пракрадвалася ў каго рэдкія сумненні, то цяпер ужо іх не было ні ў аднаго чалавека. Рысь хадзіла за людзьмі следам! Усіх пасяленцаў не такой ужо і вялікай каралішчавіцкай калоніі агарнуў усяленскі жах! Дзяцей трымалі ў пакоях, а калі выводзілі на ганак, дак толькі за руку. Хадзілі не інакш як гуртам і ўсе, як пікамі, узброеныя адмысловымі кіямі.

Тазы і ночвы, якія пільна ахоўвала гаспадыня, набывалі ўсё больш і больш прыцягальную сілу. Да фінскага дамка Сабаленкаў кіраваліся адна за другой групы цікаўных і заплаканых. Усе хацелі ўпэўніцца, убачыць на ўласныя вочы рысіныя сляды. Гаспадыня з пачуццём ускладзенай на яе адказнасці давала падрабязныя тлумачэнні ўрачыста прыўзнімаючы жалезную тару перад кожнай новай дэлегацыяй.

Моладзь, як і звычайна ў час гістарычных выпрабаванняў, паводзіла сябе мужна і стрымана. Яна цяпер, можна сказаць, нязменна трымала руку на пульсе падзей і была адзінай крыніцай самай новай інфармацыі. Дзіўна, як згуртоўвае людзей небяспека. Яшчэ ўчарашнія толькі зламыснікі і злачынцы з лагера моладзі за адзін дзень ператварыліся ў дасведчаных знаўцаў і нават дарадцаў. Як ні кажы, а толькі дзякуючы іх маладой адвазе і сіле, можно было адчуваць хоць крыху смялей і небяспечней нават тым, хто ўчора яшчэ бязлітасна караў распусту.

Нехта настойваў і патрабаваў ад дырэктара Дома выклікаць міліцыю. Некаторыя дамагаліся "рафіка" -- каб, пакуль не позна, з'ехаць дадому. Аптымісты былі за тое, каб званіць у Таварыства паляўнічых. Зрэшты, хто, як не гэтае таварыства павінна займацца і цікавіцца тым, што адбываецца ў лесе. І не толькі цікавіцца, а і бараніць людзей ад драпежнікаў!

Дырэктар лянога Дома пачаў званіць па ўсіх тэлефонах у горад, але была субота, і ніхто нідзе не адклікаўся. Што ж датычыла Таварыства паляўнічых, то яно хутчэй за ўсё само адбыло на паляванне. Наступны тыдзень прайшоў таксама ў трывозе, хоць і прыглушанай крыху. Рысь больш не паказвалася. Аднак заведзеная спружына сваю справу рабіла. Марыя Ісакаўна -- у Саюзе пісьменнікаў усе звалі яе Бядуліха -- была не з тых жанок, што сядзяць склаўшы рукі ў час небяспекі. Калі не мог дабіцца ніякага паратунку ні ад кога дырэктар Дома, то гэта зрабіла за яго яна, удава класіка беларускай літаратуры! Яна дабілася!

І сапраўды быў узняты "па трывозе" і адпраўлены на месца падзеі ўзброены да зубоў атрад стралкоў, набраны выключна з асаў паляўнічай справы. За плячыма кожнага шчацінілася стваламі зброя самых неверагодных часоў і заводаў. Фантастычная ж маляўнічасць адзетку нагадвала оперную сцэну з веберавскага "Чароўнага стралка". Аблава пачалася пасля таго, калі ў суправаджэнні ўсіх чыста насельнікаў Дома атрад стралкоў уважліва дасьледаваў спачатку мясціны вакол немага халоднага вогнішча, а потым знікшыя за тыдзень сляды, хоць ночвы і тазы, не кранаючыся з месца, усё яшчэ намагаліся захоўваць іх таямніцу... Праз гадзіну ў лесе ўсчалася страляніна, загрымела такая пальба, што калі б, крый Божа, трапіўся на гэты час на гэтай дарозе выпадковы чалавек, то яму, несумненна, падалося б, што пачынаўся канец свету...

Зусім нядаўна, успамінаючы і сумуючы па Каралішчавічах, я спытала ў аднаго з тых колішніх маладых, што былі там, у тое "рысінае" лета ў Каралішчавічах:

-- Ты памятаеш, як усіх нас да смерці напалохала рысь?

-- А ніякай рысі не было, -- са смехам адказаў ён.

-- Як не было?!

-- А так -- не было! Была абдуманая акцыя. Праведнікі распіналі нас на крыжы, і мы пакаралі праведнікаў -- пусцілі пагалоску, што з'явілася рысь. І разыгралі класічную камедыю... Скажаш -- не?

*1987 г.*

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

Працяг. Пачатак у № 21--23.

*СЛАВЯНСКІЯ ПЕРШАНАСТАЎНІКІ Ў БЕЛАРУСІ*

# ЯНЫ СЕЯЛІ ДАБРО

**Слава вам, братья, Славян просветители,**
**Церкви Славянской святые отцы.**
**Слава вам, правды Христовой учители,**
**Слава вам, грамоты нашей творцы.**
**Будьте ж Славянству звеном единения,**
**Братья Святые: Мефодий и Кирилл...**
**Да осенит его дух примирения**
**Вашей молитвы перед Господом сил.**

Мінскія перыядычныя выданні ўдзяляюць шмат увагі святу славянскіх першанастаўнікаў у 1885 годзе. Апублікаваны паведамленні і інфармацыі аб падрыхтоўцы свята, падрабязная праграма ўрачыстасцяў па днях і гадзінах, парадак следавання хрэсных ходаў, змешчаны разнастайныя матэрыялы аб жыцці святых айцоў. Гэта вялікі нарыс "Жыццё і подзвігі святых Кірыла і Мяфодзія, асветнікаў славян", выступленні і прамовы, сказаныя на ўрачыстасцях, пропаведзі, шэраг рэдакцыйных і аўтарскіх матэрыялаў П.Сакалова, архімандрыта Сергія, І.Лісоўскага, А.Ленскага, С.Рункевіч, П.Тарскага, вершы Н.Стэфані і многіх іншых. Асобае месца сярод іх займае артыкул свяшчэнніка Андрэя Юрашкевіча. У ім аўтар падкрэслівае ролю Балгарыі ў захаванні і развіцці славянскага пісьменства. "Балгарыя з любоўю прыняла ўцекачоў і ўсё багацце, завешчанае славянству святымі братамі, у сваю чаргу завяшчаўшы яго суродзічам -- сербам і рускім". Падкрэсліваючы значэнне Кірыла і Мяфодзія, А.Юрашкевіч піша: "Наша грамата -- стварэнне іх. Першая наша царкоўная і народная кніга -- іх кніга. Свяшчэннае Пісанне і богаслужэнне мы чытаем у царкве і дома на іх мове. Значыць, уся наступная гісторыя Расіі, галоўным і асноўным рухавіком якой у самых разнастайных сферах народнага жыцця была праваслаўная вера, развівалася і здзяйснялася пад уплывам дзейнасці і прац святых апосталаў славянства".

Падобным чынам, як і ў Мінску, было арганізавана і праведзена ўшанаванне славянскіх асветнікаў і ў Віцебску. Пра гэта расказваюць "Віцебскія губернскія ведамасці". Увесь дзень ва ўсіх цэрквах горада 6-га красавіка "наладжаны быў перазвон у знак урачыстасці". На працягу трох святочных дзён пан начальнік губерні знайшоў час, каб наведаць усе вучылішчы, гімназіі і дзіцячыя дамы, дзе "асабіста раздавалася дзецям жыццеапісанне Кірыла і Мяфодзія". У публікацыях газеты падкрэсліваюцца словы з прывітання Святога Сінода аб тым, што "праз іх мы зведалі царкоўную прыгажосць, і прыведзены ад цемеры да святла, і ад смерці да жывата вечнага". У апублікаваным выступленні старшага настаўніка З.П.Осіпава гаворыцца, што пасля сваёй сустрэчы з арабскімі вучонымі "Канстанцін зрабіў у гэты час спробу звярнуцца да другой дзейнасці, больш плённай". Вестка гэта заключаецца ў тым, што ён хадзіў у нейкую краіну, населеную Славянамі, у Брэгальніцу, і знайшоў там ужо тых, хто хрысціўся, даконачыў справу, ахрысціўшы астатняе насельніцтва". У тым жа матэрыяле аўтар, расказваючы аб місіі братоў у Херсанесе, паведамляе, што Мяфодзій суправаджаў свайго брата, "хаця іншыя весткі наадварот указваюць, што ён заставаўся на радзіме і прапаведваў хрысціянства сярод ваяўнічых балгар. Зрэшты пачатак пропаведзі ў балгар быў пакладзены абодвума братамі яшчэ да падарожжа ў Хазарыю, і вынікі гэтай пропаведзі былі, па ўсёй верагоднасці, значныя, таму што захавалася несумненнае сведчанне, што св.Мяфодзій каля таго часу зрабіў сваім духоўным сынам самога цара балгарскага Барыса, паланіўшы яго "айчыннай сваёй мовай ва ўсім прыгожым". У тым жа нумары газеты надрукавана прамова гімназічнага інспектара І.В.Пакроўскага. У ёй ён цытуе "Жыцие св.Климента Ахрыдскага" і падкрэслівае: "Пасля таго як св.Мяфодзій зрабіў князя Барыса сваім сынам, г.зн., папросту гаворачы, схіліў яго на карысць прыняцця хрысціянства, то, гледзячы на князя, і народ балгарскі "пачаў прычашчацца святым хрышчэннем і хрысціянствам"... Але таму што славянскае і балгарскае племя не разумелі пісанняў на грэчаскай мове, то св.браты знайшлі ў гэтым вялікую шкоду і адчулі несуцешны смутак у тым, што светач пісанняў не можа быць запалены ў цёмнай краіне балгар; яны былі збянтэжаны, не маглі гэтага перанесці і гатовы былі адмовіцца ад жыцця. Але, звярнуўшы свае позіркі да Суцяшальніка, яны моляць Яго міласці для вынаходства пісьмёнаў і, атрымаўшы жаданы дар, вынаходзяць славянскія пісьмёны і перакладаюць пісанне з грэчаснай мовы на балгарскую". Далей аўтар падкрэслівае вялікае значэнне мовы і кніг, атрыманых ад балгар. На яго думку, аб'яднанне разрозненых, часта варагуючых паміж сабой рускіх плямёнаў, утварэнне імі моцнай рускай дзяржавы становіцца магчымым толькі прыняццем хрысціянства і кніжнай мовы; намаганні старажытных рускіх князёў не былі б паспяховымі, калі б царкоўнаславянская мова не парадніла асобныя рускія плямёны.

**Пётр КУЦАРАЎ.**

*З балгарскай мовы пераклала Росіца КАМЕНАВА.*

Працяг. Пачатак у №№ 22, 23.

# "ПЕСНЯ МАЯ ПРАСПЯВАНАЯ..."

**Вось і мінула ўжо дзесяць гадоў, як пайшла з жыцця выдатная беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло. Выдатная, таму што была сярод першых прафесійных паэтаў. Выдатная, таму што і амаль праз стагоддзе яе творы помніць і спявае народ. Выдатная, таму што не зламалася пад ударамі не вельмі літасцівага лёсу і заўсёды была верная роднай зямлі. Некалькі гадоў назад убачыў свет апошні зборнік К.Буйло "Коціцца рэха", дзе чытач знойдзе для сябе многа цікавага. Сёння мы перадрукоўваем са скарачэннямі рэцэнзію Алы Сямёнавай на зборнік "Коціцца рэха", якая нядаўна з'явілася ў часопісе "Полымя".**



**Здымак з сямейнага альбома. Зроблены ён у 1939 ці 1940 годзе. На ім Канстанцыя БУЙЛО (другая справа, стаіць) і блізкія ёй людзі. У першым радзе сядзяць -- Алег -- сын Іны Антонаўны, маці Настасся Францаўна, Алеўціна -- жонка Вітольда Антонавіча. У другім радзе -- сястра Іна Антонаўна, яе дачка Людміла, брат Вітольд Антонавіч, крайні справа -- Аляксандр Сяргеевіч -- муж Іны Антонаўны.**

Ёсць паэты, якія нібыта заўсёды прысутнічаюць у нашым жыцці. Знаёмымі даўно радкамі, ладам сваіх думак, настроем творчасці -- яны як краявід маленства, як крынічка з родных мясцін, як матчына калыханка... Песні на словы гэтых паэтаў спяваюць -- як народныя. Ведаюць прозвішчы -- змалку. Аднак...

Звыклая, знаёмая, вядомая... Але і неяк у аддаленасці нашых уяўленняў, прыблізных і не заўсёды дакладных. Канстанцыя Буйло... Адна з першых "нашаніўцаў". Адраджэнка. З тых, што былі пачынальнікамі новай беларускай літаратуры. І -- паўвека па-за межамі Беларусі. І -- дзесяцігоддзі творчага маўчання. І -- самазахавальная аўтабіяграфічная заслона: "Я з вельмі вялікай непавагай адносілася ўсё жыццё да анкет. Ненавідзела іх".

Мы ведалі абставіны жыцця Канстанцыі Антонаўны, трагедыю яе лёсу, тое, чаму яна ненавідзела анкеты. Але яе кніга "Коціцца рэха", куды ўвайшлі вершы, паэма "Па траскіх гацях" і лісты — вызначальная. І тым, што яна канкрэтызуе і ўдакладняе многае ў жыцці паэткі. І тым, што тут змешчаныя вершы, якія раней не друкаваліся. І тым, што з вершаў і лістоў, што друкуюцца ўпершыню, складаецца літаратурны аўтапартрэт паэткі, у нечым больш характарыстычна дакладны і выразны, як ён выдаваў нам раней. А яго разумна каменціруе, густоўна падсвечвае і спрабуе тлумачыць Дзіяна Чаркасава, укладальніца і аўтар прадмовы.

Мы прачытаем дакументальнае пацвярджэнне паэткі, як пазначаць яе прозвішча: "Прасіла, каб абавязкова была падпісана фамілія Буйло, а не разляпаная Буйла". Пазнаёмімся з вытрымкай з дзяржаўнага архіва Літвы пра тое, што "17 студзеня 1893 года ў Віленскім р. (ымска)-к. (аталіцкім) касцёле Св. Якава было ахрышчана дзіця па імені Канстанцыя, дачка сялян Антона і Настазіі (народж. Бусіла) Буйлаў, якая нарадзілася 2 студзеня 1893 г.,у Вільні". У 1893-м, а не ў 1898, як раней пазначалася ва ўсіх даведніках.

Даведка гэтая падаецца ў прадмове, скіроўваючы нашу ўвагу вось на тую нелюбоў да анкет і аўтабіяграфій. "Знаю, что всё, что бы я ни написала, будет потом свидетельствовать против меня", -- піша Канстанцыя Буйло ў лісце да сваёй сястры Іны Антонаўны. Мусіць, і год нараджэння з'явіўся не ад жаночага капрызу. "Меня жизнь заставила писать разное о себе".

Жорсткі лёс... Жорсткі час...

Канстанцыя Буйло... Наталля Арсеннева... Ларыса Геніюш... Ганна Ахматава... Марына Цвятаева... Ніводную з іх не абмінула трагедыя рэжыму. Кожная выпіла з таго атрутнага кубка. Кожная зведала здраду. І спагаду. Для сяброўства ж з ахвярай рэжыму ці з членам сям'і "ворага народа" патрэбна было высакародства. І смеласць. Як у Янкі Купалы і яго жонкі -- Уладкі -- Уладзіславы Францаўны.

**З дзён дзяцінства**
**да старасці год**
**Нас гарачая дружба**
**з'яднала, --**

у гэтых словах, звернутых да Купалы, словах, у якіх адчуваецца пафасны імпэт нашаніўскай пары, не проста канстатацыя факта -- удзячнасць за тое, на што былі здольныя толькі яны -- Янка Купала і Уладка -- Станкевічанка.

Пасля смерці Янкі Купалы яго жонка -- Уладзіслава Францаўна, -- засталася для Канстанцыі Буйло самай блізкай, "подругой -- сестрой -- матерью", як мы прачытаем у кнізе. "Одно сознание, что она существует на свете, -- придавало мне мужество переносить все невзгоды и все горе", "она была той артерией, через которую вливалась в меня Родина", -- так пазначыць у лістах да Марыі Канстанцінаўны Хайноўскай свае стасункі з Уладзіславай Францаўнай Канстанцыя Буйло.

Увогуле для паэткі гэтая сувязь з Радзімай, з людзьмі з Беларусі, у першую чаргу з літаратарамі -- надзвычай важная.

**Я гарнуся да вас, усёй душой**
**адзінокай гарнуся,**
**Мае брацця, сябры, --**
**ўсе паэты маёй**
**Беларусі.**

І хоць выдаваліся кнігі, друкаваліся ў перыёдыцы вершы, пісаліся артыкулы пра паэтку, пяяліся песні на словы Канстанцыі Буйло, яна балюча перажывала сваю аддаленасць ад Радзімы. Нібыта і не за мяжой (на тую пару), але і не дома...

**О, Радзіма мая, ты пачуеш**
**мяне,**
**Мусіць, толькі тады, як я**
**вочы заплюшчу...**

У нас -- ды хіба толькі ў нас! -- часта адбываецца выбух прызнання пасмяротнага... Крыху б ад таго сённяшняга шуму Ларысе Геніюш ды пры жыцці... І Язэпу Драздовічу... І Алене Кіш... То праўда, дзякуй Богу, што хоць некалі...

Мабыць, сапраўднае прачытанне і асэнсаванне жыцця і творчасці Канстанцыі Буйло яшчэ таксама наперадзе. Няпростае жыццё, складаны духоўны свет...

Гаворачы ж пра канкрэтнае выданне, мушу зазначыць, як многа яно дае для разумення яе творчасці, эмацыянальнай дзейнасці яе калег-нашаніўцаў, таго часу, пачатку стагоддзя, 30-40-х гадоў ды ўсяго, па сутнасці, веку, у якім давялося жыць паэтцы.

Я нездарма пачала з лістоў... Вершы мы ведалі, большасць з іх, чыталі ўспаміны -- яе і пра яе, нават паэма была ўжо ў двухтомніку: таксама, між іншым, праз трыццаць год пасля напісання! А вось лісты -- упершыню.

Лісты і здымкі -- у нас заўсёды не так проста было "прарвацца" з такім матэрыялам: ведаю па сваёй рэдактарскай практыцы. Дык, на мой погляд, выдатна, што мы ўрэшце прачыталі гэтыя лісты, яшчэ паглядзелі на здымкі. Нават вядомыя. Мне здаецца, гэта важна -- паглядзець, пазначыць для сябе яшчэ раз выгляд, абрыс, тыпаж, адметнасць асобы. Як усё ж прырода пазначыла свае патаемныя намеры? Моц характару відаць на ўсіх фота Канстанцыі Буйло. Як і яе беларускі тып. І фізічная і духоўная значнасць.

Пачала я, набыўшы кніжку, з разглядвання здымкаў і чытання лістоў, з прадмовы. Перачытала і прачытала вершы. Ведаючы, што існуе і такая думка -- ну, што там сёння паэзія Канстанцыі Буйло? Гісторыя.

Не буду згадваць хрэстаматыйнае -- калі вершы жывуць ад пачатку да канца стагоддзя, дык гэты неаспрэчны факт сцвярджае сам сябе. Хто ж не ведае славутых радкоў:

**Люблю наш край -- старонку**
**гэту,**
**Дзе я радзілася, расла,**
**Дзе першы раз пазнала**
**шчасце,**
**Слязу нядолі праліла.**

Хто ж забыўся на словы, дзе прыроджаная выбуховасць пачуцця і эмацыянальная энергія надаюць досыць распаўсюджанаму сюжэтнаму ходу непаўторнасць, што жывіць верш:

**Адна, ізноў адна, як колас**
**той у полі,**
**Не сцяты ў час жніва**
**нагостраным**
**сярпом,**
**Зламаны ветрамі гулячымі**
**на волі**
**Між апусцелых ніў,**
**спалосаных дажджом.**

Хто ж не памятае ў песенным і слоўным выяўленні гэтае рамантычнае светастварэнне, гэтае сцвярджэнне народнай маралі і эстэтыкі, гэтае дзейства, амаль рытуальнае, але ўзбуйненае лірычным перажываннем, дзе асабістае і абагуленае набывае паэтычную каштоўнасць дзякуючы сваёй непарыўнасці, дзе дыстанцыя паміж эмацыянальнымі магчымасцямі паэткі і чытачоў робіцца незаўважнай -- і чытачу гэта дорага і важна.

**У гаршчочак зямлі я даўно**
**ўжо калісь**
**Кветку руты жывой**
**пасадзіла:**
**Палівала яе, даглядала яе --**
**Мая рута на дзіва ўрадзіла.**

Хто ж не спяваў "Руту", хто ж не памятае гэтую нібыта старую, як свет, але заўсёды кранальную гісторыю пра дзяўчыну, што не вынесла нават уя[illegible]ня свайго жыцця з нялюбым.

Са школьнай пары -- а мо са студэнцкай? -- мы ведаем, што для ранняй паэзіі Канстанцыі Буйло ў той, нашаніўскі перыяд, калі яна стала знанай і слыннай, быў характэрны і неад[illegible] ўласцівы ўвесь "спектр тэматыкі, праблематыкі той пары, з усімі ўласцівымі прыёмамі, з тым прарочым імпэтам, калі паміж узроўнем жыцця і ўзроўнем свядомасці ставіўся знак тоеснасці. Рахунак лёсу яшчэ не ставілі, заклікалі да таго спосабу жыцця, які здаваўся адзіна магчымым для чалавека, а чалавек уяўляўся не інакш як асоба сацыяльна-палітычна актыўная. "Да працы, да светлай вялікай работы, з абломкаў, руінаў тварыць новы дом!" "Бо жыць так гаротна, Як мы, дык нявартa, каб жыць". І знойдзем мы там нястомнае "Гэй!" як выяўленне грунту "жыццябудовы", як знак абавязковага аптымізму і абавязковага пафасу. "Гэй, ўсе, ў каго сіла, уменне, ахвота, Працуйце!" "Гэй, які абшар шырокі".

Сёння, у наш скептычны і моцны сваім адмоўным пафасам (ці ўвогуле адсутнасцю яго) час, гэта падаецца і крыху наіўным, і занадта голасным. Але мне здаецца, што значэнне вершаў не толькі ў іх значнасці для сваёй гістарычнай пары, яно яшчэ і ў водгуку той маладой шчырасці, маладой моцы, бескарыслівасці, калі хочацца, без якой аніякія патрыятычныя і грамадскія дзеянні немагчымыя. Без гэтай энергіі вольнага руху. Таму, можа, і сённяшняе наша шматадукаванае (само па сабе гэта выдатна) Адраджэнне стала захлынацца, што большасць (на жаль!) прыкідвала: "А што я асабіста тут буду мецъ? Як творца? Як асоба грамадзянская?" А потым грымнуў рэферэндум і іншыя падзеі. І сёння мы маем тое, што маем.

А ў Канстанцыі Буйло -- прашу дараваць мне нелірычныя адступленні -- у яе раннюю пару мы знойдзем і фальклорныя матывы -- з курганнымі кветкамі, русалкамі, ветрыкамі, салаўямі, зоркамі, месячыкам. Усё гэта выдатна адабрана і прадстаўлена ў кнізе. Як і лірыка кахання, безумоўна, адна з самых моцных і па сённяшні дзень ліній творчасці паэткі.

З веданнем і густам пададзеныя вершы -- пейзажныя замалёўкі, што сведчаць пра строй душы, у суладдзі са строем прыроды, стыхіяй яе, бо тут адчуванне натуральнасці свайго існавання на зямлі, надзейнасці быцця.

І, мабыць, зусім зразумела, што, вярнуўшыся да творчасці, Канстанцыя Буйло вяртаецца да светлага свайго пачатку -- калі мець на ўвазе сродкі выразнасці, танальнасць, метрыку, рытміку верша.

Ці былі прычынай доўгага маўчання Канстанцыі Буйло толькі тыя скрушныя падзеі гадоў рэпрэсій? І іх вынікі? Ці было яшчэ нешта? Няма ж вершаў, недзе пачынаючы з 16-га года, а з'яўляюцца -- ўсё ж -- якраз у 30--40-я гады. Ці былі нейкія творы, ды знішчаныя?

Працягваючы ж гаворку пра выданне, пра тое, што змешчана тут з другога, так бы мовіць, перыяду творчага Канстанцыі Буйло, згадаем паэму "Па траскіх гацях". Бо якраз прызнанні паэткі ў лістах ("Меня жизнь заставила писать разное...") даюць зразумець, чаму не толькі "ранак краскамі багаты", "вобразам праменістым адбіўся" ў гэтым творы Канстанцыі Буйло, не толькі таленавіта-светлы ўспамін пра сяброўства з Уладзяй, на тую пару "прыгожай, як мальва ў садзе", знаёмства (найперш) з яе маці -- Эмільцяй -- Эміліяй: францужанкай, якую муж любіў, "як сонца росы", знайшлі вершаванае выяўленне. Але і з'явіліся радкі, на якіх безумоўны адбітак года напісання: 1951-ы. "Маці... працавала горача, няспынна, Як прыхільніца Савецкай улады". Гэта трэба было абавязкова пазначыць і засведчыць...

Прасцей за ўсё з далечыні 1995 года кінуць каменьчык туды, у 1951-ы. Сёння вельмі модна абвінавачваць. Як і тады, у 1951-м. Змяніўся толькі ракурс і аб'екты. Дзякуй Богу, пазбаўленне жыцця ці волі -- не ў пашане... То чымся вінавацiць, лепш паспрабаваць зразумець... Прыслухацца, учытацца... Пра майстэрню слова , дзе часам і "ад праменняў сонца насукаеш нітак", дзе "сукенку скроіш ці з ядвабу неба, ці з вуалю хмаркі", а ў суровую хвіліну -- прапануеш шлем і шынель сваёй музе. Пра "высокую камяніцу" ў горадзе, дзе лёс вызначыў жытло лірычнай гераіні, якой "павек будзе сніцца лёгкі пух на бязлістай вярбе". Пра тое, як не хоча паэтка падпарадкоўвацца няўмольнай хроніцы жыцця.

Ёсць і думкі -- не так пра вечнасць, як пра памяць, пра іншабыццё. Верш невыпадкова, мабыць, звернуты да Уладкі:

**Чаму ты стаіш невясёлая,**
**З каронай пушыстай,**
**шырокаю,**
**Выносная, меднастволая,**
**Сасонка мая адзінокая! --**

І гэтыя радкі невыпадкова перагукаюцца са словамі:

**Я хацела б прарасці сасной,**
**Хай бы ветры пелі нада мной.**
**Пры жыцці любіла я сасну,**
**Як сястру душы маёй**
**прачулай...**

"Сястра душы" -- гэта і Уладка. Тут пачынаюць згадвацца асацыяцыі -- Пастарнак: "Сестра моя жизнь", яшчэ нешта.

... Перагортваю наноў кнігу. Можна, безумоўна, папракнуць Канстанцыю Буйло ў залішняй прыхільнасці да ідэалаў маладосці, у самапаўторах танальнасці, можна шукаць у яе тое, чаго ў яе няма. Але гэта будзе рытуальная бессэнсоўнасць, паводле Мандэльштама.

Канстанцыя Буйло -- паэт арганічны. Паэт сваёй школы. Сваёй пары. А пара тая мела доўгі век.

**Ала СЯМЁНАВА.**

## СВЯТА ДЗЯЦІНСТВА





Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці "Голас дзяцінства" прайшоў у Мінску. Дзіцячыя калектывы з Расіі, Украіны, Германіі, Польшчы, Кітая, Чэхіі і з усіх куткоў Беларусі паказалі мінчанам сваё ўменне спяваць, іграць і танцаваць. Затым з плошчы Незалежнасці дзеці прайшлі святочным шэсцем на плошчу Перамогі, дзе ўсклалі вянкі да помніка-абеліска.

НА ЗДЫМКАХ: ускладанне вянкоў удзельнікамі фестывалю на плошчы Перамогі; выступленне дзіцячых калектываў на плошчы Незалежнасці.
Фота Віктара ТОЛОЧКІ.

**ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!**
Вы часта пытаецеся, як падпісацца на газету "Голас Радзімы" за межамі Беларусі. На жаль, да гэтага часу не створана службы, якая б гэтым стала займалася.
Аднак усе, каму падабаецца выданне і хто жадае яго падтрымаць, могуць дасылаць свае ахвяраванні на наступны рахунак у Белзнешэканомбанку: выдавецтва "Полымя" (для газеты "Голас Радзімы") р/р 3 012 000 376 001, код банка 226, код "Полымя" 153 001.

| Country, Bank, City | CURRENCU SWIFT CODE | ACCOUNT N |
|---|---|---|
| **U.S.A.** | | |
| REPUBLIC NATIONAL BANK OF NEW YORK, NY. | U[illegible]LICUS 33 | 608-206-830 |
| BANK OF NEW YORK, NEW YORK | U[illegible]VTUS3N | 890-0057-025 |
| **GERMANY** | | |
| DEUTSCHE BANK AG., FRANKFURT/MAIN | DEM DEUTDEFF | 949806400 |
| COMMERZBANK, FRANKFURT/MAIN | D[illegible] COBADEFF | 4008866311 |
| DRESDNER BANK AG., FRANKFURT/MAIN | D[illegible] DRESDEFF | 8 138 023 00 |
| **FRANCE** | | |
| EUROBANK, PARIS | FRF EUROFRPP | 01514001 |
| **AUSTRIA** | | |
| CREDITANSTALT-BANKVEREIN, VIENNA | ATS CABVATWW | 0101-63798/00 |
| **ITALY** | | |
| CARIPLO, MILAN | ITL CARIITMF | 69467/018 |
| **SWITZERLAND** | | |
| CREDITSUISSE, ZURICH | CHF CRESCHZZ | 902236-73 |
| **GREAT BRITAIN** | | |
| MIDLAND BANK PLC., LONDON | GBP MIDLGB22 | 35687907 |

**БАНК "УКРАИНА"** Киев 000170080
МФО300454

**КАЗАХСТАН (казахстанские тенге)**

**"АЛЕМ БАНК КАЗАХСТАН"** Алматы 169313-146
**АБ "КАЗКОММЕРЦБАНК"** Алматы 034169309

К/с 700161724 в ГАТУ НБ РК
МФО 190501109
Примечание: код 724 для расчетов с банками г. Алматы и Алматинской, Жамбылской, Талдыкорганской областей; код 109 -- для расчетов с банками других обл. Казахстана

**ЛАТВИЯ (латвийские латы)**

**РИЕТУМУ БАНК** Рига 000164077

**ЛИТВА (литовские литы)**

**БАНК "СНОРАС",** Шауляй 169309
--МФО 260101758
к/с 700161458 в РКЦ Литвы

**КЫРГЫЗСКАЯ РЕСПУБЛИКА (кыргызские сомы)**

**АКБ "КЫРГЫЗКРАМДСБАНК"** Бишкек 076162014
-- МФО 330107719

**МОЛДОВА (молдавские леи)**

**БАНК "MOLDINDCONBANK" S.A.** Кишинев 34168402
-- к/с 300166025 в РЦ НБМ, код 280101325

**ПРИМЕЧАНИЕ: любезная просьба регулярно связываться с отделом корреспондентских отношений для уточнения реквизитов.
Тел.: 238-11-36, 238-12-40, 238-12-39
Факс: 226-48-09**

**Список корреспондентских счетов "Ностро" Белвнешэкономбанка в ограниченно конвертируемых валютах в странах СНГ и Балтии (май 1996 г.).**

**РОССИЯ (российские рубли)**

**МКБ "МЕЖКОМБАНК"** Москва 7632125
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 997641, уч. КР
-- для иногородних расчетов: ГРКЦ ГУ ЦБ РФ по Москве, корр. счет 143161100, МФО 201791 или 44583001

**АКБ "Международная Финансовая Компания"** Москва 001632370
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 995320 или 44531882, ул. L5
-- для иногородних расчетов: корр. счет 882161200 в ЦОУ ЦБ РФ Москвы, МФО 299112

**АБ "ИНКОМБАНК"** Москва 151632423
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 998736, уч. 5С
-- для иногородних расчетов: корр. счет 502161000 в РКЦ ГУ ЦБ РФ Москвы, МФО 201791

**АКБ "КОНВЕРСБАНК"** Москва 422100007
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 998468, участник TD
транзитный счет N 904098
-- для иногородних расчетов: корр. счет 921161200 в ЦОУ ЦБ РФ Москвы МФО 299112 или МФО 44531000

**АБ "Нижегородский банкирский дом"** Нижний Новгород 3632934
-- кор. счет 700161405 в РКЦ ГУ ЦБ РФ по Нижегородской области
-- МФО 116002 код 705 (по Нижегородской области).

**УКРАИНА (украинские карбованцы)**

**КБ "ПРИВАТБАНК"** Днепропетровск 1170136
-- кор. счет 700161306 в обл. Управлении НБУ
МФО 305299

**Адрас: аддзела карэспандэнцкіх зносін: Беларусь, 220050 Мінск, вуліца Мяснікова, 32, Белзнешэканомбанк.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

220005, Минск, праспект Ф.Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 594.
Падпісана да друку 10.6.1996 г.